Праваабарончы
# Веснік
красавік 2014
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПРЫЗНАНЫ ПРАВААБАРОНЦАМ ГОДА

## Цырымонія ўручэння прайшла 4 красавіка ў Стакгольме

Шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders («Абаронцы грамадзянскіх правоў») адзначыла, што больш за 30 гадоў свайго жыцця Алесь Бяляцкі прысвяціў бесперапыннай барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека, спачатку ў СССР, а затым у Беларусі.

“Алесь з’яўляецца адным з адзінаццаці палітычных зняволеных, якія ўтрымліваюцца ў зняволенні беларускім рэжымам, які часта называюць «апошняй дыктатурай Еўропы». Ён быў асуджаны да 4,5 гадоў пазбаўлення волі за ўхіленне ад выплаты падаткаў у выніку судовага працэсу з выразным палітычным падтэкстам. Арыштаваны 4 жніўня 2011 г. З гэтага часу ўтрымліваўся ў турме і пазбаўлены магчымасці свабодных зносін з навакольным светам. Будучы кіраўніком вядучай праваабарончай арганізацыі краіны «Вясна», Алесь Бяляцкі з’яўляецца цэнтральнай фігурай у беларускай грамадзянскай супольнасці”, нагадала Civil Rights Defenders.

Намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч адзначыў: “Для Алеся важна атрымваць такое прызнанне. Ён моцны і сардэчны чалавек, надзвычай захоплены ідэямі дэмакратыі і правоў чалавека. Такая знешняя падтрымка як гэтая ўзнагарода на доўгі час умацоўвае яго і ўсіх сябраў «Вясны», а таксама натхняе на працяг змагання за дэмакратычную Беларусь. Дамагчыся працяглых і ўстойлівых зменаў можна толькі з дапамогай ціску знешняга свету. Мне было сапраўды прыемна напісаць ліст Алесю і паведаміць яму пра ўзнагароду. На жаль, я не ведаю, ці дайшоў гэты ліст, паколькі мы дасюль не атрымалі адказу”.


*Алесь Бяляцкі*

З часу стварэння «Вясны» ў 1996 годзе, Алесь затрымліваўся і арыштоўваўся больш за 20 разоў. Многія з гэтых выпадкаў былі звязаныя з такімі парушэннямі, як раздача асобнікаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

«Судовы працэс па справе Алеся Бяляцкага быў распачаты нягледзячы на міжнародныя пратэсты і патрабаванні яго вызвалення. Пераслед Алеся быў наўпрост звязаны з яго праваабарончай дзейнасцю, а прысуд служыць папярэджаннем для ўсёй беларускай грамадзянскай супольнасці», кажа Роберт Хорд, дырэктар Civil Rights Defenders.

Раней Алесь быў уганараваны некалькімі іншымі ўзнагародамі, у тым ліку шведскай прэміяй Per Anger, прэміямі імя Андрэя Сахарава і Homo Homini. Ён быў намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру ў 2006, 2007 і 2012 гадах.

Прэмія Civil Rights Defenders “Абаронца Грамадзянскіх Правоў года” штогод ўручаецца 4 красавіка, у дзень забойства доктара Марціна Лютэра Кінга. Прэмія прысуджаецца падчас штогадовай канферэнцыі Civil Rights Defenders «Дні праваабаронцаў» у Стакгольме, на якую збіраюцца праваабаронцы з усяго свету. Сёлетняя прэмія Алесю Бяляцкаму была ўручаная ягонай жонцы Наталлі Пінчук і ягоным калегам з Праваабарончага цэнтру «Вясна».

# МОГИЛЁВСКИЙ СУДЬЯ ПОЛУЧИЛ 14 ЛЕТ ТЮРЬМЫ С КОНФИСКАЦИЕЙ ИМУЩЕСТВА

Приговор Верховного суда обжалованию и опротестованию не подлежит.

7 апреля суд приговорил бывшего заместителя суда Октябрьского района Могилёва Магомеда Умарова к 14 годам заключения с конфискацией имущества, а также лишением права занимать должности в правоохранительных и судебных органах сроком на 5 лет.

Он признан виновным по ч.3 ст.430 (получение взятки должностным лицом, занимающим ответственное положение, повторно в крупном размере), ст.13 и ч.2 ст.431



(приготовление к даче взятки в крупном размере повторно), а также по ст.13 и ч.3 ст.209 (приготовление к завладению имуществом путем обмана и злоупотребления доверием; мошенничество, совершенное в крупном размере) УК Беларуси.

Второй фигурант - Анатолий Гомонов - признан виновным по ч.1 ст.431 (дача взятки), а по ч.1 ст.209 (завладение имуществом путем злоупотребления доверием - мошенничество) оправдан за отсутствием состава преступления. Его приговорили к одному году ограничения свободы без направления в учреждение открытого типа.

«Приговор в кассационном порядке обжалованию и опротестованию не подлежит», - также сказал судья.

Как сообщалось, судебный процесс по делу Умарова начался 19 марта. С самого начала он не признал свою вину, а Анатолий Гомонов заявил, что раскаивается, передаёт БЕЛТА.

Впрочем, 58-летний уроженец Дагестана Магомед Умаров вошёл в историю Могилёва, как любитель позаниматься сексом на рабочем месте.

Как стало известно «НАШему Могилёву» из надёжных источников, во время нахождения судьи в «разработке» сотрудниками КГБ в его кабинете были установлены видеокамеры, которые и засвидетельствовали как минимум три факта сексуальных отношений судьи, в том числе с одной из своих подчинённых.

По всем нормам ответственности теперь свою должность должен оставить и председатель Октябрьского районного суда Могилёва Валерий Мазуров, однако сохранение за им должности зависит от уровня занимаемой им позиции в среде вертикали власти, а также его «крыши».

*«Наш Магілёў»*

# ЯЎГЕНА ВАСЬКОВІЧА ЦКУЮЦЬ ПРАЗ АСУДЖАНЫХ

Як стала вядома аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» з крыніцаў у магілёўскай турме №4, на Яўгена Васьковіча адміністрацыя пачала аказваць усебаковы ціск праз асуджаных.



Калі раней Яўгена катавалі, бясконца змяшаючы яго ў штрафны ізалятар, абмяжоўваючы ў ежы, спатканнях і перадачах, дык цяпер турэмшчыкі абралі іншую тактыку - задзейнічалі іншых асуджаных.

БХД адназначна звязвае гэта са спробамі прымусіць Яўгена напісаць прашэнне аб памілаванні напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі - і патрабуе неадкладнага спынення здзекаў і вызвалення Яўгена Васьковіча.

Нагадаем, сябра БХД Яўгена Васьковіча затрымалі 17.01.2011 года ў Магілёве на наступны дзень пасля яго ўдзелу ў акцыі салідарнасці зь беларускімі палітвязнямі. Яго абвінавацілі ў нападзе на будынак КДБ у Бабруйску, які адбыўся ў ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 году. У нападзе ніхто не пацярпеў, а рэальныя страты склалі 253 тысячы рублёў, якія былі кампенсаваныя. Нягледзячы на гэта, Яўгена Васьковіча суд прысудзіў да сямі год зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У сваім апошім слове хлопец назваў сябе ліцьвінам і дадаў, што яго святы абавязак—бараніць нацыянальныя беларускія каштоўнасці: «За іх я ўмерці гатовы, бо жыцьцё кароткае, а радзіма вечная». Скончыў Васьковіч свой кароткі выступ воклічам: «Жыве Беларусь!».

*bchd.info*

# УЛАДЫ ПРЫЗНАЛІ ДАМЫ АВАРЫЙНЫМІ, КАБ ВЫСЕЛІЦЬ ЛЮДЗЕЙ

У Магілёве 79 жыхароў сямі жылых дамоў па вуліцы Крупскай патрабуюць ад гарадскіх уладаў адмяніць рашэнне аб зносе гэтых будынкаў, прынятае, на іх думку, незаконна.

Магілёўскі гарвыканкам 26 снежня 2013 года прызнаў, што сем дамоў, якія знаходзяцца на тэрыторыі былой вайсковай часці па вуліцы Крупскай, непрыдатныя для жылля і падлягаюць зносу. Такое рашэнне было прынята на падставе абследавання тэхнічнага стану кватэр, нібыта праведзенага ў тым жа годзе.

Як сцвярджаюць жыхары, Магілёўскі гарвыканкам неабгрунтавана і таемна прыняў рашэнне аб непрыдатнасці кватэр для жылля — акты абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць рэчаіснасці. Жыхары ўпэўнены, што іх дамы «сталінскай пабудовы» знаходзяцца ў задавальняючым стане і маюць патрэбу толькі ў касметычным рамонце.

17 сакавіка ў памяшканні сярэдняй школы № 25 адбылася сустрэча каля 80 жыхароў з прадстаўнікамі Магілёўскага гарадскога і абласнога выканкамаў, жыллёва-рамонтна эксплуатацыйнага ўпраўлення Ленінскага раёна Магілёва.

Як заявіў на сустрэчы намеснік начальніка гарадскога аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксей Шарай, рашэнне гарвыканкама было прынятае законна і з выкананнем неабходных працэдур. Ён расказаў, што на працягу 2014 года гэтыя дамы будуць знесены. Тыя, хто мае ў іх прыватызаваныя кватэры, уселяцца ў арэнднае жыллё і атрымаюць грашовую кампенсацыю па рынайчным кошце сваіх цяперашніх кватэр (зразумела, што кошт кватэр, прызнаных непрыдатнымі для жылля, будзе крайне малы). Жыхарам непрыватызаваных кватэр будзе прапанаванае жыллё з дзяржаўнага жылога фонду з магчымасцю яго прыватызацыі да 2016 года.



На сустрэчы жыхары сцвярджалі, што раптоўнае рашэнне аб зносе дамоў было выклікана прыцягненнем інвестара, які павінен будзе пабудаваць на тэрыторыі былой вайсковай часці новы мікрараён з гандлёвым цэнтрам. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў снежні 2013 года гаварыў магілёўскі гораданачальнік Уладзімір Цумараў. Жыхары патрабавалі, каб за кошт інвестара ім былі выдзеленыя кватэры, якія адпавядаюць іх патрабаванням.

Аднак Шарай сцвярджаў, што яму нічога не вядома пра будаўніцтва. Нязгодным жа з рашэннем гарвыканкама ён параіў звяртацца ў суд.

Жыхары так і зрабілі: пры канцы красавіка яны падалі заяву ў суд Ленінскага раёну Магілёва. У заяве, якую падпісалі больш за тры дзясяткі чалавек, яны патрабуюць адмяніць рашэнне гарвыканкаму аб зносе дамоў. Жыхары сцвярджаюць, што абследванне іх дамоў і кватэр у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам не было праведзена так, як мае быць, і высnova пра тое, што іх жыллё не адпавядае устаноўленым для пражывання патрабаванням - неабгрунтаваная.

Акрамя таго, жыхары накіравалі ў Магілёўскі гарвыканкам калектыўны зварот, у якім просяць гарвыканкам заранёў папярэдзіць іх пра дату правядзення паўторнага абследвання іх дамоў, праводзіць яго адкрыта і галосна, і дазволіць ім беспера шкодна фіксаваць на фота і відэакамеры дзеянні супрацоўнікаў, што будуць ажыццяўляць абследванне. Жыхары таксама просяць гарвыканкам дазволіць беспера шкодна знаёміцца з матэрыяламі абследвання як ім самім, так і іх законным прадстаўнікам, а таксама незалежным спецыялістам, паколькі раней чыноўнікі чынілі ім ў гэтым перашкоды. Так, нядаўна адвакатка жыхароў была вымушана звярнуцца ў пракуратуру са скаргай на дзеянні чыноўнікаў гарвыканкаму, якія забаранілі ёй капіраваць дакументы па гэтай справе.

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

**Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.**

**Алесь Беляцкий:**

213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**

212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**

213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Андрей Гайдуков:**

211300, Витебская обл., Витебский р-н, п. Витьба, ИК №3

**Эдуард Лобов:**

225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**

211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

**Василий Парфенков:**

213410, Могилёвская обл., г. Горки, вул. Добролюбова, 16, ИК-9

### Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Политзаключённым принято называть человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Правозащитники требуют, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Правозащитники добиваются лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Правозащитники не поддерживают и не опровергают взгляды таких людей, а также никак не оценивают необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна», газеты «Наш Магілёў», bchd.info*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.